Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 48 Чацьвер, 4-га Сьнежня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Насьпеўшая справа.

Рэакцыйная польская прэса яшчэ комэнтуе на розныя лады патрэбнасьць у нашым краі вынятковага стану. А, тымчасам, падобны стан, як-бы напалову ў практыцы адчуваецца.

Дасюль няма ў нас таго, што ясна прадугледжана Дзяржаўнаю Констытуцыяй: няма законна выбраных органаў мясцовага самаўраду.

Адсутнасьць гэтых дэмакратычных органаў дрэнна адбіваецца на ўсім мясцовым жыцьці. Па валасьцёх з назначанымі войтамі і, сфармованымі адміністрацыяй у ваенны час, валаснымі радамі, адчуваецца народнае нездаволеньне з гэткага палажэньня справы, бо беларускае насяленьне, пры сваіх саўсім законных дамаганьнях, не заўсёды мае спатканьне і спачуцьце яго інтарэсам з боку навет валаснoе адміністрацыі.

Возьмем, напрыклад, гэткае жаданьне нашага сялянства, як справа роднае школы. Закладаючы школу, сялянам трэба прарабіць поўныя папяровыя фармальнасьці: злажыць прыгавар, прыняць на сябе поўныя гаспадарчыя абавязаньні датычна школы, зацьвярдзіць прыгавар праз валаснога войта і дабіцца ад валаснoе рады пастановы аб тым, што рада гэтая гарантуе выпаўненьне прынятых на сябе сялянамі школьных абавязаньняў.

Калі-б у валаснoй радзе засядалі людзі, выбраныя мясцовым насяленьнем, дык пэўна, што з вышэйназванымі фармальнасьцямі было-б вельмі мала клопату і, ў кожным выпадку, куды менш, як цяпер.

Аб тым, як складалася *крэсовая* наша адміністрацыя гаварыць шмат ня прыходзіцца. Аб гэтым вельмі яскрава гавораць час-ад-часу галасы тутэйшае краёвае дэмакратыі цераз лявіцовую сталічную польскую прэсу. Паводлуг густу адміністрацыі, злажыліся і ўсе *часовыя* органы самаўраду.

А дзеля таго, што ў фармаваньні адміністрацыі беларусы ніякага удзелу ня мелі, дык ні ў валасных радах, ні ў павятовых сойміках цяперашняга складу інтарэсы нашага насяленьня належна не прадстаўлены.

Калі-б беларускае прадстаўніцтва ў павятовых сойміках было прапарцыянальным ліку насяленьня нашае нацыянальнасьці, дык з голасам прадстаўніцтва гэтага ўсё-ж такі мусілі-б лічыцца паны павятовыя старасты пры ўстанаўляньні дзяржаўнай прыналежнасьці (obywatelstwa) грамадзян-беларусаў, і справа выдаваньня пашпартоў магла-б не насіць такога фатальнага характару, як цяпер, калі беларускаму беднаму сяляніну мімаволі прыходзіцца на памяць навет той перадваенны час, калі ён проста і лёгка даставаў, пры патрэбе, пашпарт у валаснoй канцэлярыі ад валаснога старшыні, якога ўсё-ж такі меў права выбіраць на сваім валасным сходзе.

Лягчэй было-б і з іншымі ўсялякімі бытавымі справамі, калі-б істнаваў выбарны мясцовы самаўрад.

Тымчасам, дасюль няма навет закону аб гэтым самаўрадзе і ён яшчэ недзе проектуецца, ня трапіўшы дасюль на разгляд Сойму.

Згодна з духам Констытуцыі, закон аб выбарах у самаўрадовыя органы мусіць быць саўсім дэмакратычным і доступ у самаўрады, цераз выбары, павінен быць адкрыты для ўсіх грамадзян бяз ніякае нацыянальнае розьніцы. Гэта вымагаецца катэгорычным прынцыпам роўнасьці грамадзян, агалошаным у Констытуцыі, ў спрэчнасьці з якою ня можа быць ніводзін закон.

У рэакцыйных польскіх кругох чуюцца галасы аб недасканальнасьці самой Констытуцыі, аб зьмене „ordynacji wyborczej“ для выбараў у будучыні новага парляманту, чуюцца навет болей дзівачныя галасы монархістых аб патрэбе караля... Але думаць і гаварыць вольна кожнаму грамадзяніну, як ён сабе хоча, Констытуцыя застаецца ўсё-ж такі сама сабою і кожны закон ня траціць свае абавязальнае моцы ад таго, што тая ці іншая партыя адносіцца да яго крытычна, лічачы яго недасканальным.

Найгорш, калі па тэй ці іншай галіне дзяржаўнага жыцьця няма нармальнага закону і замяняюць яго якія-нібудзь часовыя правілы, бо сама *часовасьць* сьведчыць аб іхняй недасканальнасьці.

І дзеля гэтага ўсяго, справа гэтак важная, як закон аб мясцовым самаўрадзе, ня можа адкладацца да бесканечнасьці. Патрэба гэтага закону насьпела не сягоньня і якнайхутчэйшае яе зьдзейсьненьне можа вельмі памагчы таму, каб зьніклі самі сабою пустыя гутаркі аб вынятковым стане ў нашым краі, насяленьне якога ня так ужо і грэшнае, як аб ім можна падумаць, седзячы ў тэй ці іншай рэдакцыі нацыяналістычных польскіх газэт.

**Часовая Беларуская Рада месьціцца на Нямецкай вуліцы у готэлі „Palace“ пакой 154. Прыём штодня ад 12—2 гадз.**

## Палітычны агляд.

Палітычнай сэнсацыяй апошняга часу зьяўляецца звальненьне Троцкага з пасады народнага камісара ваенных справаў і старшыні вышэйшай ваеннай рады, а — ёсьць яшчэ чуткі — што Троцкі выйшаў навет з камуністычнае партыі. Звальненьне народнага камісара ў С. С. Р.Р. гэта ня тое самае, што адстаўка нейкага міністра ў іншай дзяржаве. Годзі ад'значыць той факт, што ў працягу сямёхгадовага істнаваньня бальшавіцкай дзяржавы ня страціў свае пасады ніводзін з галоўных бальшавіцкіх павадыроў, калі ня лічыць сьмерці Леніна, ня гледзячы на тое, што савецкі ўрад ня споўніў ніводнага пункту свае праграмы. У кожнай іншай дзяржаве, някіраванай дыктатурай, робіцца зьмена ўраду ў залежнасьці ад зьмены палітычных настрояў; сёньняшняя опозыцыя бярэ ў свае рукі ўладу, а ранейшая ўрадовая партыя займае месца першай, як напр. у Англіі і Францыі, і ад гэтай перамены месца дзяржаве не пагражае ніякая небясьпека. А зьмена або адстаўка дыктатарскай улады азначае для яе ня толькі палітычную, але й фізычную сьмерць. Ніводзін з савецкіх павадыроў ня можа разьлічаць на свабоду, а навет захаваньне жыцьця, пасьля правалу савецкага ладу, тым болей, што камуністычная партыя ня так вялікая. 350.000 камуністых на 120 мільёнаў насяленьня — гэта капля ў моры. На сумленьні кожнага з сяброў камуністычнай партыі ляжыць шмат чалавечых ахвяраў. Згінулі мільёны з голаду і чырвонага тэрору ў працягу сямёх гадоў савецкай улады. Вось дзеля чаго камуністычная партыя і рада народных камісараў гэтак крэпка ўхапілася за ўладу, ведаючы, што іх чакае, калі-б яны яе ўтрацілі. Што-ж азначае адстаўка Троцкага, займаўшага першае месца пасьля Леніна і меўшага вялізныя заслугі для бальшавізму? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба сказаць аб адносінах між Троцкім і іншымі сябрамі партыі. Больш-менш перад пачаткам сёлетняга году расейская камуністычная партыя прадстаўляла аднародную масу, ў якой былі больш менш умяркованыя кірункі, але ня было опозыцыі. Калі толькі паяўляўся хістаўшыйся або варожы элемэнт у партыі, яго зараз-жа бязьлітасна выганялі. Аднабокасьць і аднолькавасьць партыі лічылася галоўным варункам захаваньня ў яе руках улады. Яшчэ пакуль быў здаровы Ленін, ён сам строга сачыў за гэтым і ня было ў партыі ніякае опозыцыі. Але як толькі пачаліся праявы палярушу, дык яго ўлада пакрысе пачала пераходзіць у рукі г. наз. „тройкі“ — Зіноўева, Каменева і Сталіна. Гэтыя тры асобы — гэта старыя прыяцялі Леніна яшчэ дарэвалюцыйнага часу, калі ён разам з імі кіраваў бальшавіцкай фракцыяй расейскай соц.-дэмакратычнай партыі. Гэту кіраўнічую ролю штаб Леніна захаваў і пасьля таго, як з тайнай бальшавіцкай арганізацыі ўтварыўся савецкі ўрад. Над савецкім урадам і камітэтам III Інтэрнацыяналу стаіць камуністычная партыя, якой загадвае гэт. наз. палітычнае бюро, ў якім галоўную ролю мае ўсемагутная „тройка“ Каменеў, Зіноўеў і Сталін, каторая пры жыцьці Леніна была выканаўцай яго волі, а пасьля яго сьмерці зрабілася неагранічанай. Але неабмяжованая ўлада „тройкі“ пачала выклікаць протэст сярод шмат якіх сяброў партыі, ў гэтым ліку і Троцкага. Троцкі думае, што ён палажыў вялізную заслугу для бальшавіцкай рэвалюцыі і разьлічаў адтрымаць першае месца пасьля Леніна, лічачы Зіноўева, Каменева і Сталіна неадпаведнымі для гэтага. А апошнія ня хочуць дзяліцца з ім уладай. Троцкі амаль што не да самай вайны належаў да пар-

ты меншавіцкай, прылучыўся да бальшавікоў перад самай рэвалюцыяй і пасьля гэтага не пакінуў сваіх „меншавіцкіх“ нахілаў. На гэтым грунце і пачаўся конфлікт між „тройкай“ і Троцкім, конфлікт, каторы распаўсюджыўся і на цэлую партыю. Конфлікт гэты першы раз выліўся ў яўнай форме на апошнім V конгрэсе расейскай камуністычнай партыі, калі Троцкі выступіў з адкрытай крытыкай кіраўнікоў партыі. Троцкага падтрымоўвалі Калантай, Антонаў, Мясьнікаў, Шляпнікаў, Прэабражэнскі ды інш. Опозыцыя гэта імкнецца да таго, каб, здэмакратызаваўшы партыю, зварухнуць яе на шлях эволюцыі і, гэткім чынам, вывясьці яе з бязвыхаднага палажэньня, тады, як праціўнікі опозыцыі бачаць ратунак партыі толькі ў чыстаце ленінскіх ідэяў. Неабмяжоўваючыся голай крытыкай шкоднай дзеяльнасьці „палітбюро“, Троцкі ад імя 62-х сваіх староньнікаў падаў рапарт, у якім нападае на палітычнае бюро і дамагаецца абнаўленьня партыі. Гэты рапарт зрабіў на кіраўнікоў партыі вялізнае ўражаньне. Троцкі быў высланы на Каўказ на доўгі одпуск, а ў партыі і арміі пачалася „чыстка“ опозыцыйных элемэнтаў. Аб гэтым грозным мамэнце ў жыцьці камуністычнай партыі „Правда“ пісала: „Трэба біць трывогу. Адзінству партыі пагражае небясьпека. Калі на Петраград ішоў Юдэніч, а да Тулы падыходзіў Дэнікін, у рэдакцыі „Правды“ шмат казалі аб павазе мамэнту. Але цяпер палажэньне шмат паважнейшае... Справа ўся—далей піша „Правда“—не ў дэмакратызацыі партыі, ня ў тым ці іншым адхіле, а **ўва ўладзе.** Пытаньне аб тым, хто застанецца пры ўладзе — Бухарын, Зіноўеў, Каменеў ды інш., якія будуць кіраваць камуністычнай партыяй шляхам, паказаным Леніным, ці Шляпнікаў, Прэабражэнскі і Неўскі. Ці рэвалюцыя павінна й далей спаўняць сваю гістарычную ролю, ці яна прайшла ўжо свой шлях. Іх (опозыцыю) чакае бязумоўная няўдача, але яны расхістаюць жалезную спайку партыі. А Каменеў аб гэтай небясьпецы сказаў: Гэта ёсьць міжнароднае пытаньне. Партыя перажывае гістарычны мамэнт. Пад адкрытым пісьмом Троцкага падпісалася 80 камуністых, высказаўшых пагляд, што ўсялякія розьніцы думак у партыі — пачатак яе канца...

Ссылка не зрабіла пажаданага ўражаньня на Троцкага, які не пакінуў думкі заняць адпаведнае для сябе месца. Повадам новага конфлікту была кніга Троцкага п. з. „Уроки октябрьской революции“, ў якой ён выстаўляе сябе галоўным героем, тады як Зіноўева, Каменева і Сталіна называе трусамі.

Кніга Троцкага была сканфіскована, ўсе артыкулы Троцкага ў газэтах пачалі ісьці праз строгую цэнзуру і яму забаранілі выступаць на будучым конгрэсе расейскай камуністычнай партыі. Троцкі надта выдатная велічыня ў гісторыі бальшавіцкай рэвалюцыі, каб яго пакінуць у спакоі. Але, з другога боку, нельга з ім паступаць так, як са звычайным контррэвалюцыянэрам, дзеля таго, што ён мае масу староньнікаў у партыі і ў чырвонай арміі. Дзеля гэтага трэба дзеяць надта асьцярожна.

І няма ведама ці пройдзе безбольна для камуністычнай партыі самаачыстка ад „троцкізму“, якая заразіла ўвесь расхістаны камуністычны арганізм. *N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Забастовачнае палажэньне ў Лодзі, не зьмянілася. У нядзелю адбыўся рад мітынгаў з прысутнасьцю паслоў. Прынята рэзалюцыя аб падтрыманьні забастовачнага руху, а навет завастрэньні яго ў выпадку адпорнае пазыцыі прамыслоўцаў. Ліквідацыі забастоўкі спадзяюцца ў гэтым тыдні, дзякуючы энэргічнай інтэрвэнцыі Ураду.

У сувязі з апрацованым цяпер законам аб арганізацыі вайсковых уладаў міністар п. Тугут быў у маршалка Пілсудзкага з мэтаю падняць акцыю аб непаразуменьнях датычна гэтае справы паміж гэн. Сікорскім і п. Я. Пілсудзкім.

2-га гэт. сьнежня ў будынку міністэрства ўнутраных справаў пачаліся нарады прадстаўнікоў ураду з усходнімі ваяводамі. Як інфармуе польская прэса, мэтаю гэтых нарадаў, якія маюць працягнуцца два дні, зьяўляецца сагласаваньне апрацованых ужо даўно санацыйных проектаў для ўсходніх ваяводзтваў; часьць гэтых проектаў мае ўвайсьці ў жыцьцё шляхам распараджэньняў ураду і інструкцыяў, а некаторыя будуць праведзены ў законадаўчым парадку.

На паседжаньні рады міністраў 3-XI разглядаўся рад проектаў распараджэньняў Прэзыдэнта Рэспублікі, якія маюць быць выданымі на аснове закону аб надзвычайных поўнамоцтвах. Прысьпяшэньне выданьня гэтых распараджэньняў выклікаецца тым, што праз месяц канчаюцца поўнамоцтвы, якія выцякаюць з закону, а няма пэўнасьці ў тым, што ўрад трэці раз выступіць у Сойме з проектам новых поўнамоцтваў, або з працягам дасюлешніх.

**За граніцай.**

У **Эгіпце** парлямэнт прыняў протэст проці ангельскага ўрадаваньня, перасланы Лізе Народаў і ўрадам усіх дзяржаваў. У **Порт-Саідзе** насяленьне абурылася проці ангельцаў. Незалежная ангельская рабочая партыя выпусьціла адозву, ў якой протэстуе проці дзейнасьці Англіі ў Эгіпце, робячы параўнаньне окупацыі яго з тым, што рабіла Нямеччына ў Бэльгіі падчас вайны. Новы эгіпэцкі прем'ер Зівар-паша згадзіўся на трэбаваньне ангельцаў перадаць іхняй уладзе ахову чужаземцаў і адпавядальнасьць за іхняе жыцьцё і маемасьць.

Як паведамляюць з **Вашынгтону**, амэрыканскія сэнатары-рэспубліканцы выключылі са свае партыі павадыра прогрэсыстых Лефолета і трох яго відных староньнікаў.

З **Лёндану** паведамляюць, што ноты савецкага ўраду, пераданыя Ракоўскім ангельскаму ўраду, зрабілі благое ўражаньне на ангельскія кіраўнічыя сфэры.

Газэта „Obserwer“ паведамляе з **Мадрыду**, што там ходзяць чуткі, быццам гэн. Прыма-дэ-Рывэра замерваецца адмовіцца ад пасады начальніка дырэкторыі ў **Гішпаніі**, застаўшыся галоўным камандзерам у **Мароко**. На яго месца выстаўляюць адмірала Магазэ.

З прычыны зьмены кабінэту ў **Турцыі**, францускі прэм'ер Эрыё выслаў да Фэтры-пашы тэлеграму, прапануючы зьбліжэньне Францыі з Турцыяй. Турэцкі прэм'ер дзякаваў тэлеграмаю і абяцаў дапамагаць зьбліжэньню.

З **Нью-Іорку** надыйшла вестка, што на абедзе ў чэсьць францускага пасла ў Амэрыцы Жюсэрана гэнэральны пракурор Джэмс Бэк заявіў, што калі-б на Францыю быў зроблены напад, дык Амэрыка выпаўніла-б свой доўг.

ПАТ перадае вестку з **Рэвалю (Эстонія)**, што 1-га сьнежня а $5^1/2$ гадз. раніцай азброеныя камуністыя атакавалі некалькі ўрадовых і ваенных будынкаў; атака ўсюды адбіта. У провінцыяльных местах спакойна.

У **Югаславіі** ўрад пастанавіў арыштаваць і аддаць пад суд 40 дэпутатаў **харвацкае** партыі Радзіча на чале з віцэ-прэзэсам Скупшчыны (Сойму). На аснове закону аб абароне дзяржавы, радзічаўцы вінаваціцца ў зносінах з Масквой і македонскім рэвалюцыйным камітэтам.

У **Латвіі** абазначыўся ўрадовы крызыс, прычынаю якога зьяўляецца конфлікт, які паўстаў паміж партыяю латгальскіх дэмакратаў і іншымі групамі па справе аб грамадзкім страхаваньні. Урадовая большасьць у парлямэнце перастала істнаваць. Адстаўка кабінэту зьяўляецца няўхільнай.

# Агляд прэсы.

На адным з апошніх паседжаньняў Сойму пасол А. Звержынскі выступіў з проектам увядзеньня ў нашым краі ваеннага палажэньня. „Gazeta Warszawska“, як галоўная прадстаўніца таго кірунку польскай прэсы, які адзіным, самым важным, спосабам завядзеньня ладу і парадку на ўсходніх „крэсах“ лічыць увядзеньне тут ваеннага палажэньня, па гэтаму поваду піша:

> Ня толькі насяленьне ўсходніх ваяводзтваў, але насяленьне ўсяе Польшчы нецярпліва чакае, каб вялася выразная палітыка, якой мэта ясная: ўзмацаваць лад і бясьпеку ў ваяводзтвах, у якіх цяпер гуляюць бандыцкія аддзелы. Трэба ясна адказаць, што мы тут маем дзела з бальшавіцкай унутранай і вонкавай акцыяй і што гэтая акцыя павінна быць зьліквідована. П. Тугут заявіў, што ўрад не згаджаецца на ўвядзеньне ваеннага палажэньня. Гэткага нэгатыўнага сказу ўраду мала, грамадзкая думка павінна ведаць, што ўрад думае зрабіць, каб завясьці лад і парадак, якія ўжо зроблены загады і якія яшчэ думае зрабіць у будучыні, калі гэтых загадаў будзе мала. Мэтода павінна быць вырашана, а раз заведзенай мэтоды трэба консэквэнтна трымацца. Справа супакаеньня ўсходніх ваяводзтваў ня мае нічога супольнага з палітыкай адносна да гэтак наз. нацыянальных меншасьцяў, хіба пастольку, што, пакуль не запануе там лад і парадак, ня можа быць паважнай гутаркі аб тым, каб падняць гаспадарчы стан краю і яго агульную культуру.

„Сначала успокоеніе, а потом реформы“ — сказаў некалі Сталыпін, і „Gaz. Warsz.“ дасюль іншых прынцыпаў ведаць ня хоча.

У іншым нумары гэтая-ж самая „Gazeta Warszawska“ друкуе артыкул свайго корэспандэнта з крэсаў усходніх, у якой той між інш. закрануў гаспадарча экaнамічныя пытаньні:

К. СТЭПОВІЧ.

# Янка Канцавы.

**Вясковая драма ў 5 дзеях.**

Прэміравана Радаю Старшыняў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня на 1-м конкурсе драматычных твораў, абвешчаным у 1922 годзе Беларускім Музыкальна-Драматычным Гуртком.

Асобы:

**Янка Канцавы** — гаспадарскі сын.
**Маці** яго — ўдава.
**Каруся** — дачка яе, сястра Янкі.
**Язэпка** — малы брацік Янкі
**Франук** — прыяцель Янкі.
**Язэп** — вясковы гаспадар.
**Юрась** — яго сын.
**Бэрка** — вясковы жыд.
**Міхасіха** — старая бабуля.
**Разалька** — яе ўнучка.

ДЗЕЯ І.

**Янка — Язэпка — Іх матка — Каруся — Франук.**

*Звычайная беларуская хатка. Абраз адзін - другі на сьцяне. Пры стале Янка з газэтай у руках. Далей — Каруся з кудзеляй. На вэдліку Маці з прасьніцай. Пры ей малы Язэпка з лементаром. Маці паказуе яму ціха літары. Пара вячорная.*

ЗЬЯВА 1.

**Янка** (*чытае з газэты*). «Каб пачалі мы болей думаць аб жыцьці сваім, пакінулі благія наровы, ўзяліся шчыра за работу, хутка-бы сталі на роўныя ногі — асьветы і дабрабыту. Найгорш шкодны нам наша адсталасьць і гультайства, што баіцца зрабіць сабе прымус на дарозе да лепшай долі»...

**Язэпка** (*голасна*). Бэ-а-ба, бэ-э-бэ, бэ-і-бі, бэ-о-бо.

**Янка**. Цішэй, Язэпка! Не замінай мне! (*чытае далей*) — «Праўда мы любім новае, кідаем старое. Але часта робім гэта без развагі, Прымаем ахвотна тое, без чаго абышліся-б шчасьліва; кідаем тое, за што пашлюць нам праклён нашыя ўнукі»...

**Язэпка** (*іноў*). Эм-а-ма, эм-э-мэ, эм-і-мі...

**Янка** (*гнеўна*). О, шалунька! Бачыце яго? Успакой-жа, мамачка, свайго чытальніка!

**Маці**. Ціха, ціха! Нястройна быць назойлівым.

**Каруся**. Э, бо ўжо до гэтага чытаньня і нараканьня. Раскажы лепей, мама, як даўней людцы жылі. А ты адкажы, Янка, чаму так людзі наракаюць на лёс свой, калі самі вінаваты.

**Янка** (*задуманы*). Так, так... вінаваты.

**Маці**. Ох, многа зьмянілася ад часу, як стала я помніць... Гдзе дзеліся паны? Гдзе тыя людцы забітыя — гаротныя, што ня знали нічагусенька, ніякай людзкасьці!..

**Янка** (*цьверда*). І што-ж, мама! Даўней людзі былі бяднейшыя, цямнейшыя; але-ж ня былі такія, як цяпер, налпы!

**Маці**. Чаму налпы? Што ты, Янка, кажаш?..

**Янка**. А тое, што цяпер нашы жывуць чужым розумам і то розумам хворым. Лішне

**П. Пілсудскі:** каб не падрываць крэдытаў, ня варта перавыбіраць Управы і прапануе пакінуць яе ў старым складзе.

**П. Бэднаровіч:** Цяперашняя Управа ня мае ў сабе прадстаўнікоў беларусаў. Калі хочаце, каб насяленьне ўносіла грошы ў касы коопэратываў, дык выбярце такую Управу, ў якой былі-б прадстаўнікі ўсіх нацыяў, жывучых ў Віленшчыне. Гэтая Управа павінна падацца ў адстаўку.

**П. Калачоўскі** кажа, што кожная Управа, ў якой няма п. Бэднаровіча, падлягае ягонай крытыцы і прапануе пакінуць старую Управу.

Далей хоча гаварыць п. **Протас**, але старшыня ставіць на галасаваньне, ці даць яму голас; польская большасьць галасуе проціў. За тое, каб даць гаварыць п. Протасу, галасавала 6 асоб. Галасуецца votum даверыя да Управы, які прыймаецца 34 галасамі проціў 10.

Далей разглядаліся вольныя прапазыцыі. Апошнім пунктам павесткі былі выбары Над'зорчай Рады.

*Ш.*

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Колькі зарабляюць кіно-артысты?

Вядомыя кіноматографічныя артысты, апрача славы, маюць вялізныя даходы, аб якіх можна дагадвацца па тым, якія падаткі плацяць амэрыканскія кіно-артысты.

У красавіку і траўні кожнага году Лёс-Анджэлёс найбагацейшы горад наагул і горад кіноматографу асабліва пачынае стагнаць, дзеля таго, што надходзіць час плаціць падаткі. Амэрыканскі ўрад зьбірае з Лёс-Анджэлёсу 24.400 тысяч даляраў, з якіх больш, як 4 мільёны (гэт. знач. 17%) плацяць кіно-артысты. Адным з найбольшых платнікаў зьяўляецца Гарольд Лёйд. Яшчэ два гады назад ён плаціў 113 тысяч даляраў у год, а з таго часу даходы яго моцна падняліся. Нямала плаціць рэжысэр Сэсыль дэ-Міль, які ставіў, паміж іншым, вядомы абраз „Дзесяць запаведзяў". Ен адтрымлівае ад кампаніі, для якой працуе, пэнсіі 6.500 даляраў у тыдзень, 338 тысяч у год і гэта найменшая часьць яго заробку, дзеля таго, што ён яшчэ, мае проценты з пастаўленых абразоў і апрача таго зьяўляецца буйным нэфтавіком.

Ен плаціць некалькі сот тысяч падатку ў год. Конуэйтэрн і Барба Ля Мар плацяць больш-менш па 150 тысяч даляраў у год, Догляс Фэрбэнкс і Мэры Пікфорд судзяцца цяпер з урадам і амэрыканскі кіноматографічны сьвет з цікавасьцю сочыць за бегам справы.

Паводлуг законаў, у Каліфорніі муж распараджаецца агульнай маемасьцю, гэт. знач. грашыма зарабленымі мужам і жонкаю падчас іхняга супольнага жыцьця. У гэткім выпадку, разважае ўрад, Догляс распараджаецца грашыма сваей жонкі, дык значацца гэтыя грошы да яго належаць. І праз гэта ён павінен плаціць падаткі за сябе і за сваю жонку. Але-ж калі заробак дасягае мільёна, дык падатку бярэцца 55 процантаў, або 550.640 даляраў. Зразумела чаму Фэрбэнксу нявыгадна плаціць за сябе і за жонку і чаму ён судзіцца за тое, каб Мэры Пікфорд плаціла асобна.

Артысты ўсяляк стараюцца паменшыць разьмеры падаткаў. Дзеля гэтага яны пушчаюцца на розныя хітрыкі. Гэтак, напрыклад, Джэкі Коган стварыў сваё ўласнае кіно-таварыства. Даход, адтрыманны ім, раскладаецца па розных параграфах, а сам Коган па кнігах зарабляе як-бы і невялікую суму. Урад з агульнага заробку пазваляе вылічыць грошы, якія трацяцца на вопраткі, што вельмі важна для гэткай, напрыклад, артысткі, як Глёрыя Свэнсон, альбо на пасылкі фатаграфіяў. Гэта таксама нямала: Ліліан і Доросі Гіш аддаюць на гэта па 10 тысяч даляраў кожная, а Мэры Пікфорд —больш як 50 тысяч даляраў.

# У С.С.Р.Р.

### Каменеў і Сталін проці Троцкага.

„Kurjer Poranny" перадае вестку з Масквы за 27 лістапада аб тым, што ў савецкіх газэтах апублікованы прамовы Каменева і Сталіна проці Троцкага, сказаныя імі на пленарным паседжаньні зьезду прафэсіянальных саюзаў 19 лістапада.

Каменеў даводзіў, што Троцкі, ўваходзячы ў камуністычную партыю, ня зрокся свае меншавіцкае ідэолёгіі і прабаваў заўсёды карэктаваць „ленінізм" „троцкізмам".

Дасюль партыя рашуча спраціўлялася спробам Троцкага, але ў цяперашні час Троцкі ўдаўся да апошняе атручанае зброі.

Партыя ні на мінюту ня можа запомніць, што яна абкружана чужымі для яе стыхіямі і што стыхіі гэтыя будуць узрастаць на меры эканамічнага разьвіцьця краю, шукаючы магчымасьці выявіцца ў межах таго, які істнуе, партыйнага манаполю. Каменеў закончыў сваю прамову заяваю, што партыя не замерваецца ўжываць проці Троцкага рэпрэсіі, але яна змушана перасьцерагчы ад заразы яго паглядаў тыя партыйныя групы, на якія Троцкі спадзяваўся абапёрціся і, паміж іншым, моладзь.

Прамова Сталіна сказана ў тым самым духу, але тон яе болей рэзкі. Сталін падкрэсьлівае, што сутнасьць „троцкізму" заключаецца ў гэткіх пунктах: 1) недаацэнка ролі сялянства, якая выказалася ў тэорыі, гэтак званае, пэрманэнтнае рэвалюцыі, 2) недахват веры ў бальшавіцкую дружнасьць і 3) адсутнасьць даверыя да павадыроў бальшавізму і дыскрэдытацыя іх. Небясьпека „троцкізму" крыецца ў тым, што ён мае шансы стаць гэткім пунктам, на якім сайдуцца непролетарскія элемэнты, што імкнуцца да аслабленьня і зваленьня дыктатуры пролетарыяту. Сталін выказаўся проці рэпрэсіяў да Троцкага асабіста, але лічыць, што партыя павінна бароцца з „троцкізмам", як з ідэолёгічным кірункам.

### Новая „буржуазія".

У Чарнігаўскай газэце камуністычнае партыі „Красное Знамя" за 19 лістапада зьмешчаны артыкул Лебедзя — сябра цэнтральнага камітэту украінскае камуністычнае партыі, — ў якім вышэйшыя гаспадарчыя органы цэнтру абвінавачваюцца за тое, што яны, прыцягваючы па вёсках спэкулянтаў і кулакоў да радавае працы ў ніжніх установах дзяржаўнага гандлю, гэтым самым стварылі сельскую буржуазію, якая захапляе ў свае рукі палітычнае кіраваньне сельскімі масамі і настройвае сялянства проці камуністычнае партыі.

### Вайна з рабкорамі.

„Русспресс" перадае з Масквы, што, паводлуг вестак з **Смаленску**, за час ад 1-га лістапада ў гэтым месьце пракуратура пачала па заметках рабкораў і селькораў (рабочых і сельскіх корэспондэнтаў) больш, як 100 судовых справаў.

### „Савецкая Беларусь" аб правох на Віленшчыну.

Менская газэта „Савецкая Беларусь" (№ 274) зьмясьціла артыкул, у якім піша, што Літва ня можа разьлічваць на падмогу С. С. Р. Р. пры сваіх пратэнсіях на Вільню і Віленшчыну, дзеля таго, што на іх мае ўсе правы толькі беларускі народ. Пакуль беларускае насяленьне было палітычна-пасыўным, дык Літва магла ссылацца на „гістарычныя правы". Цяпер палажэньне зьмянілася. — „Замест кулацка - ксяндзоўскай Літвы,— кажа газэта, — высоўваецца на арэну працоўнае насяленьне Заходняй Беларусі". Нарэшце, газэта заяўляе, што Літва не адарве ад дужай Польшчы Вільні ні збройнаю сілаю, ні дыплёматыяй.

## Навіны ў тры радкі.

— Цэны на малако у Бэрліне падняліся да 33 і 37 фэнігаў за літр.

— У Харкаве расстрэлены начальнік паўстанцаў Стрэшка-Шэвіч і тры яго памоцнікі.

— Тыфліская акружная школа закаўкаскае Ч. К. адтрымала чырвоны штандар за ліквідацыю паўстаньня ў Грузіі.

— У Анатоліі адбыліся моцныя землятрасеньні. 30 чалавек загінула, шмат вёсак саўсім зруйнованы.

— У Рызе адбыўся напад на амэрыканскае консульства. Ніякіх дакумантаў нападаўшыя захапіць не пасьпелі.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **У Беларускім Грамадзянскім Сабр.** Прэзыдыум Бел. Грам. Сабраньня пастанавіў: Заявы п. п. Райкоўскага і Шэйпіцкага прыняць да ведама і выключыць іх са сьпіску сяброў, а таксама выключыць са сьпіску гр. Ўладыслава Лапурку і Аляшкевіча на падставе § 12 статуту Грам. Сабраньня.

Прымаюцца крокі да поўнае рэарганізацыі Грам. Сабраньня.

= **Рэгістрацыя прызыўных 1904 г.** 18 мінулага лістапада ўвайшоў у сілу новы закон аб прызыве рэкрутаў. Замест Р. К. U., прызыўныя павінны зьвяртацца ў валасныя установы гарадзкія і сельскія; ў Вільні — ў магістрат, які іх рэгіструе. Найпазьнейшы срок для яўкі прызыўных у адпаведныя валасныя ўстановы. 31 сьнежня 1924 г. Тыя з прызыўных 1904 г., якія ў паказаны срок ня зьявяцца, падлягаюць штрафу ў 500 злот., альбо 6 тыдням арышту.

= **Выдавецкая статыстыка.** Прэсбюро міністэрства ўнутраных справаў апублікавала статыстыку аб новых польскіх выданьнях за трэцюю чэцьверць 1924 году. З гэтае статыстыкі відаць, што найболей чытаюцца і выдаюцца творы сэнсацыйнага зьместу. Гэткага гатунку твораў за вышэйпаказаны пэрыяд было надруковапа 862.000 экзэмпляраў. Лік аўтараў, пісаўшых гэтыя творы, раўняецца 168. Раманы, вершы і драматычныя творы былі выданы ў ліку 481,615 экзэмпляраў, а кнігі рэлігійнага характару — ў ліку 143.000 экзэмпляраў. Ваеннымі пытаньнямі займаліся 27 аўтараў, выдаўшых свае творы ў ліку 120,525 экзэмпляраў. Кніг для дзяцей надрукована 76000, твораў палітычнага характару 75.000, гістарычнага — 86.000, па гісторыі літэратуры 22, па мовазнаўству — толькі 7000 экзэмпляраў. Гэткім — чынам, сэнсацыйныя творы карыстаюцца найбольшым спросам, што сьведчыць аб пасьляваенным гусьце чытачоў.

= **Офіцыяльныя сьвяты.** У апошнім нумары „Dziennika Ustaw" апублікована распараджэньне Прэзыдэнта Рэспублікі аб сьвятах. Лік сьвяточных дзён, вольных ад працы, абмяжованы нядзеляй і гэткімі сьвятамі: 1-га студня — Новы Год, 6-га студня — Вадохрышча, 3-га траўня, Увазьнясеньне, Божае Цела, Пётры і Паўла— 29 чэрвеня, Усьпеньне Божае Маці — 15 жніўня, дзень 8 сьнежня і Нараджэньне Хрыста—25 сьнежня, Распараджэньне ўваходзіць у сілу 1-га студня 1925 г.

= **Абмен папсованых грошай.** Польскі Банк прымае папсованыя банкноты бяз ніякіх вылічэньняў і абмежаваньняў пры прыёме грошай і разьмене іх, пры варунку, калі: 1) адарвана ня больш за адну трэцюю часьць білету, 2) няма ня болей, як трох цыфраў нумару і аднаго подпісу, або аднае цыфры, ці літары сэрыі аднаго подпісу на білетах у 5, 10, 20 злот. з датаю 15 ліпня 1924 г., 3) калі аднаго нумару, ці аднае сэрыі няма, дык павінны быць абодва подпісы на білетах у 20 і 50 зл., з датаю 28 лютага 1924 г. Папсаваньне паасобных цыфраў нумарацыі ня можа служыць прычынаю да замены банкноту. Банкноты, папсованыя падчас пажару, паводкі і г. д. і не адпавядаючыя вышэй пералічаным варункам, могуць абменьвацца па пастанове дырэкцыі банку па прапазыцыі эмісійнага аддзелу.

= **Скандал на паседжаньні Беларускае Школьнае Рады.** 29 лістапада бяг. году адбыўся агульны сход сяброў Таварыства Беларускай школы. Сход адчыніў прамовай пасол кс. Станкевіч. Ў прэзыдыум увайшлі Старшынёю пасол Рагуля, віцэ-старшынёю п. Міхалевіч і сэкрэтаром п. Заморын. Ў сваёй прамове кс. Станкевіч выказаўся надта пэсымістычна аб дзейнасьці Т-ва, бо дагэтуль нічога ня зроблена і здаецца нічога і ня будзе рабіцца. Пас. кс. Станкевіч заявіў што ўсе, хто прыйшоў павінны заплаціць 1 злоты і запісацца ў сьпіску сяброў Т-ва і пасьля гэтага маюць права рашаючага голасу. Прысутныя выканалі гэта. Пасьля гэтага на парадку дня стаяла справаздача рэвізійнае камісіі, але з прычыны таго, што большая частка сяброў рэвізыйнае камісіі апынілася аж у Менску даклад рабіў… той, каго самога трэба было рэвізаваць, бо… скарбнік п. Манкевіч. Пасьля дакладу паўстала пытаньне, як-жа ж будзе з рэвізіяй. Голас забраў п. Міхалевіч. У часе яго прамовы на яго з кіём ў руках напаў п. А. Луцкевіч. Баронячыся, п. Міхалевіч схапіў крэсла, але ў баталію ўмяшаліся паслы Станкевіч, Тарашкевіч і сэнатар Уласаў. Сярод прысутных пачаўся перапалох. Прысутныя кабеты паднялі плач, а сяляне крычалі па адрэсе А. Луцкевіча: „Бітая морда", „Вон са сходу", „Мала цябе білі". Калі выясьнілася, што партыя Луцкевіча ў меншасьці, выступіў пасол Тарашкевіч і раптам заявіў, што тыя, хто заплаціў па злотым і запісаўся ў сябры Т-ва, голасу ня маюць. Тут падняўся старшыня сходу Рагуля і абвясьціў сход зачыненым. Паседжаньне адложана, а на тое, каб паскандаліць п. Луцкевічу, прысутныя патрацілі бітых 5 гадзін часу.

Рэдактар - Выдавец Язэп Салавей.

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.